ка, а ні дома гаспадзін вураднік?» А ты ім: «Нет дома,—куды лезеш, мужык сівалапы! Як трэба будзе, сам пакліча»...

*Наста*. Ні прывыкла я, мой дзядзячка, паняй быць, ды й ні хочу я паняй быць.

*Вураднік*. Пававаць— ні таравацьс к гэтаму ні трудна прывыкаць, Настасья Восіпаўна. Ну, дык какое-ж вашае апошняе слово?

*Наста*. Мае слово: як тата з мамаю скажуць, так і будзе. (*У гэты момант уваходзіць стары, вышоўшы с пачатку с хаты. Наста уздыхае і прамаўляе у бок*). Усьцярэжы мяне Пан Бог ад гэтаго абармота. (*Памысьліўны*). Грышачка... мілы!..

*Бацька*. Ну, брат, ты седні ні згаворышся, мабыць на хвост ей нехта наступіў. Кінь,— заутра ласкавей будзе! А покі суд ды справа, давай вып'ем і закусім. Цягні, маці, страву с печы!..

*Вураднік*. Ні варт, папаша, безпакоіць мамашу. Позна ужэ да мы і ні галодныя.

*Стараста*. (*пачаўшы дрэмаць на лаві*). Вядзі, Язэп, на сена хутчэй, а то на лаві баба з качаргою сьціцца.

*Бацька*. Калі спаць, дык німа чаго казаць. Мяне самога сон марыць.--натупаўся за цэлы дзень. Пойдзем!..(*Выходзюць*).

**(Заслона спадае.)**

## Дзея другая.

**Зьява V.**

(*Хата Дораша. Дзень. За сталом: бацька, маці, Наста і парабак Янка*).

*Янка*. Ці чулі вы, што Дзівакоў Грышка хутка з вайны вернецца?

*Матка*. Сапраўды? Вота-ж маці рада будзе!..

*Бацька*. А ты дзе чуў?

*Янка*. Чуў учора, як Пранук Забрамных ліст яго да маткі чытаў. С пошты прынеслі. Піша, што, слава Богу, здароў, прывітанне усім пасылае: і дзядзку Габрусю, і цетцы Катрэчцы, Антосю Канцавому,— бацьку свайму хрышчонаму, і усім знаемым. Адразу відаць, што чалавек адукаваўся у маскалех. А далей піша, што з японцам заміраньне вышло і што ні наш цар яму нічога ні даў, ні ен нашаму. Праз гэтае і іх дадому аслабаніці. Цяраз паўмесяца дома будзе, а можа й раней.

*Бацька*. А болей нічога ні піша?

*Янка*. Не, болей нічога. Толькі Баўтрук казаў,— мусіць у газэці чытаў, што бытцым наш цар да Мікоду,—цару, значыць японскаму,—палавіну вострава аддаў, куды арыштантаў ссылалі. Сахалінам, здаецца, той вострау завецца. Але гэта ні шкода, каб і увесь аддаў. Арыштантам мейсцо знайдзецца. Ды вот яшчэ піша Грышка, што яму ундрыцэра далі...

*Бацька*. Што? Ундрыцэра? Эх, ты, галава, і клікаць ні умееш. Адразу відаць, што у маскалех ні служыў. Унцэр-ахвіцэра, а ні ундрыцэра...

*Янка*. Ну, ці гундаль ахвіцэра.

*Бацька*. Але гэта усе глупство. Ніхай там робяць свае, а мы будзям рабіць свае. Ты вось што, Янка: еш барджэй, ды йдзі у цагельню; глядзі там у печы парадку.

*Янка*. Дык я магу ужо пайсьці (*Хрысьціцца ды выходзіць з-за стала. Апратвае халат і падпіразваецца*).

*Бацька*. Ідзі, брат! Табе старая дасьць сала кусок, зьясі дарогаю.

*Янка*. Добра.

*Матка*. (*У час размовы прыгатавала торбачку і ціпер аддае Янку*). На-ж табе, мае дзіцятко! Я тут палажыла і сыру, і сала, і хлеба лусту. Калі захочаш есьці да полудня, дык зьясі.

*Янка*. На што ты, цетка, наклала так многа, я й ні зьем... Ну, дык я пайду ужо. (*Выходзіць. Чутно за сцэнаю*):

Ішоў лысы з пляшывым,—
Нашлі яны грэбянь.
Лысы кажа пляшываму:
Ен нам ні патрэбян.

*Матка*. Вот вясёлы хлопец,—як толькі с хаты, дык зараз і засьпеваў!

(Працяг будзе).

---

# Сымон Музыка.

**(Казка жыцця).**

**Часьць трэцця.**

I.

О, край родны, край прыгожы!
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей ёсьць ў сьвеці Божым
Гэтых сьветлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе лясэ—барэ гудуць,
Дзе медамі пахнуць грэчкі,
Ніві гутаркі вядуць?
Гэтых гмахаў безграйічных,
Балатоў тваіх, вазёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор,
Дзе у восень плачуць лозы,
Дзе вясной лугі цьвітуць,
І шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць?..
Гэй, адвечныя курганы,
Сьведкі прошласьці глухой!
Кім вы тут папасыпаны?
Чыей волею, рукой
Вы раскіданы па полі,
Даўных спраў вартаўнікі?..
Ды ні скажаце ніколі,
Што казалі вам вякі,
І пуцінаю ніроўнай
Бяжыце ў далечыню—
У бок Віліі чароўнай
І пад сьветлую Дзьвіну...
Край мой родны! Дзе у сьвеці
Край другі такі знайсьці,
Дзе-б магла так, поруч з сьмецьцям,
Гожасьць пышная ўзрасьці?
Дзе бы об руку з галечай
Расквятнеў багацтва цуд
І дзе-б з долі чалавечай
Насьмеяліся, як тут?..
Скрозь вяночкі дрэў вясёла
Над мястэчкам ці сялом,
Божы цэркві і касьцёлы
Узносяць вежы к небясом,
Каб напомніць нам аб Богу,
Аб угодніках сьвятых
І уняць душы трывогу
У справах грэшных і пустых.
А званіцы перад сьвятом
У Божы дом народ завуць,
Каб прад Богам і прад братом
Віны ўсе свае пачуць...
Край мой родны! ў Божа імя,
У часьць касьцёлаў і царкваў,
Паміж дзеткамі тваімі
Легло многа камянёў;
Многа выйшло трасяніны—
Меч, агонь знішчалі край:
З двух бакоў айцэ дубіной
Заганялі нас у рай.
Кроў лілася ручаямі,
Здрада чорная расла,
Што папамі і ксендзамі
У сэрцо кінута была.
І ціпер над вамі, браця,
Яшчэ ў сіле той раздор
І папоўскае заклянце
І ксяндзоўскі нагавор.
Брацця мае Беларусы!
У страшнай кнізе людзкіх спраў
Мусіць Сам Бог для пакусы
Гэты край наш адзначаў.
Тут схадзіліс ўсе пляме̃ны
Спорку сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваеваць
І самых нас ўзяць ў ніволю,
Путы зьдзеку налажыць,
Кінуць ў цяжкую патолю,
Аб нас памяць ўсю забыць.
І лілася кроў нівінна,
Швэд набытак наш паліў,
І маскаль тут самачынна
Гвалт над намі утварыў,
І без жалю капытамі
Конь казацкі тут ступаў
І збажынку з ярынамі
Талачыў і драсаваў.
І на нашых становішчах
Білісь Польшча і Літва,
Каб на гэтых пажарышчах
Узмацавалася Масква...
Толькі ж, браця, край ні згінуў,
Ні пагнуўся яго стан,
І із нас душы ні вынуў
Ні маскаль, ні польскі пан.
Эх, чаго нам ні прышлося.
Брацця мілыя, ужыць!
Колькі талентаў зьвялося!
Колькі іх і дзе ляжыць,
Нівядомых, нпрызнаных,
Ніаплаканых нікім,
Толькі ветром адсьпеваных
У полі посьвістом пустым...
Гэй, суседзі, нашы брацця!
Ні згубілі мы свой шлях,
Ні ўламало нас нішчасьце,
Ни сагнуў нас жыцця гмах.
Дык хіба ж мы праў ні маем,

